**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск—5.05, 21.25, 16.20;
Віцебск—4.49, 21.22, 16.33;
Магілёў—4.55, 21.14, 16.19;
Гомель—5.01, 21.03, 16.02;
Гродна—5.23, 21.37, 16.14;
Брэст—5.30, 21.32, 16.02.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 14 ліпеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Панкрата, Кірыла, Аляксандра, Хведара.



# ЗВЯЗДА

22 ліпеня 1992 г. серада, № 145 (21923)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

# ВОЗГАЛАС

## АБ ПЕРШЫХ ПАРТЫЯХ:

**сапраўдных рублёў**

З крыніц, блізкіх да кіраўніцтва Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, стала вядома, што ў канцы ліпеня ў рэспубліку прыбудзе першая партыя купюр вартасцю 5 тысяч рублёў на агульную суму 2 мільярды. Гэтыя грошы з 15 ліпеня пачалі распаўсюджвацца ў самой Расіі і вось, нарэшце, пачнуць паўнапраўнае жыццё на Беларусі. Так што цяпер не здзіўляйцеся, калі вы атрымаеце зарплату толькі адной расійскай «паперкай».

**несапраўдных талераў**

Некалькі дзён назад па Мінску папаўзлі чуткі аб тым, што нібыта два вагоны Нацыянальнага банка РБ накіраваліся ў Германію за першай партыяй новых нацыянальных беларускіх грошай — талераў. «Дасведчаныя» людзі сцвярджалі, што адразу пасля прыбыцця талераў у Мінск пачнецца абмен іх на расійскія рублі ў адносінах 1:10. Таму быццам бы трэба як мага хутчэй траціць апошнія. Чуткі, як заўсёды, аказаліся крыху перабольшанымі. Як удалося высветліць карэспандэнту «Звязды», на момант іх узнікнення абодва вагоны Нацыянальнага банка РБ спакойна стаялі на вакзале, а потым, напоўненыя струхлелымі грошамі, накіраваліся ў Маскву, адкуль прывезлі чарговую партыю рублёў.

## ЕСЦІ Ж ХОЧАЦЦА

У рэдакцыю звярнулася група рабочых Краснапольскага камбіната будаўнічых матэрыялаў. Яны ўжо 4 месяцы не атрымліваюць зарплаты. Ніякіх дакладных тлумачэнняў адміністрацыя прадпрыемства даць не можа. Магчыма, пытанне вырашаецца з завозам новых пяцітысячных купюр з Расіі?

## ТАКІ ПРЭЗІДЭНТАБЕЛЬНЫ ПРАЕКТ

Палку прэзідэнтаў папражае папаўненне. На гэты раз ганаровы і, бясспрэчна, паважаны тытул давядзецца «прымерыць» аднаму з вядомых (а можа, і не) беларускіх палітыкаў. Хоць не варта загадваць, бо пакуль што мы маем справу толькі з праектам закона «Аб прэзідэнце Рэспублікі Беларусь», падрыхтаваным рабочай групай, што складаецца з членаў АДПБ, пад кіраўніцтвам кандыдата юрыдычных навук дацэнта М. Чудакова.

Калі звярнуць погляд на аналагічныя законы заходніх краін, дык гэты праект па ідэі бліжэй за ўсё да французскага — так гавораць дасведчаныя людзі. Але толькі па ідэі: у цэлым жа гэта арыгінальны, самабытны дакумент.

Згодна з праектам, запаветную пасаду зможа заняць чалавек, які дасягнуў 35 гадоў, мае выбарчае права і пражыў у рэспубліцы не менш 10 гадоў. (Да радасці феміністак, пол значэння не мае). Тэрмін знаходжання на гэтай пасадзе — ад 4 да 5 гадоў, але не больш за два тэрміны запар. Кандыдат на пасаду павінен вылучацца грамадзянамі рэспублікі ў колькасці не менш 10 тысяч чалавек, што пацвярджаецца подпісамі, сабранымі ў законным парадку.

Прэзідэнт рэспублікі выбіраецца шляхам усеагульнага прамога і тайнага галасавання і лічыцца перамогшым у выпадку, калі набраў больш за 50 працэнтаў галасоў ад колькасці ўдзельнікаў выбараў.

Народны выбраннік, акрамя ўсяго, павінен мець выдатнае здароўе, што кожны год будзе пацвярджацца кампетэнтнай медыцынскай камісіяй, з апублікаваннем бюлетэня ў друку.

У цэлым праект даволі грунтоўны, падыходзіць да такога новага для рэспублікі інстытута. Правы і абавязкі прэзідэнта рэгламентуюцца ў 34 артыкулах дакумента. Што датычыцца яго будучыні, дык яна цалкам залежыць ад цяперашніх дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі.

**Дзяніс ДЗЕМЧАНКА.**
**БелаПАН.**

## ДА ЎРУЧЭННЯ ВЯРЫЦЕЛЬНЫХ ГРАМАТ



21 ліпеня Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Іспаніі ў Беларусі Эухеніо Брэгалат Абіелс уручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіславу Шушкевічу.

Пан Брэгалат нарадзіўся 26 студзеня 1943 года. Дыпламатычную кар'еру пачаў у 1971 годзе, атрымаўшы ранг трэцяга сакратара. З верасня 1971 года працаваў у галоўным упраўленні па пытаннях Еўропы міністэрства замежных спраў Іспаніі, з сакавіка 1972 года — у гандлёвым прадстаўніцтве Іспаніі ў СССР. З 28 верасня 1972 года — начальнік аддзела Паўднёвай Еўропы галоўнага сектара па пытаннях Еўропы. З 1978 года — саветнік пасольства ў камісіі па абслугоўванню апарату старшыні ўрада. З 29 верасня таго ж года — дырэктар службы вывучэння кабінета старшыні ўрада. 26 лютага 1982 года быў назначаны паслом Іспаніі ў Рэспубліцы Інданезія. У 1986 годзе ўдастоены рангу паўнамоцнага міністра трэцяга класа, быў назначаны паслом у КНР, а затым паслом у Канадзе. Цяпер з'яўляецца паслом Іспаніі ў Маскве.

Пан Брэгалат узнагароджаны ордэнам «Ісабель ла католіка», мае крыж Ордэна за ваенныя заслугі з белым знакам адрознення першага класа, з'яўляецца камандорам першай ступені караля Абдул Азіза, манарха Саудаўскай Аравіі.

Ліцэнзіят права.

**Аддзел інфармацыі МЗС Рэспублікі Беларусь— БЕЛІНФАРМ.**

## НАПАЛОХАЛІ БУДАЎНІКОЎ. ЛЁГКА

**ПІНСК. Адміністрацыйна-тэхнічная інспекцыя склала пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні БУ (будаўнічага ўпраўлення)-31, але палічыла неабходным штраф на вінаватых не накладваць і абмежавацца папярэджаннем. Прычына — неэфектыўнасць штрафных санкцый з-за смяхотнай сумы ў 250 рублёў.**

З цеплатрасы па вуліцы Брэсцкай, якая рамантуецца, БУ-31 вывозіла кавалкі цеплаізаляцыі і бетону і скідвала ў раёне моста праз раку Піна. Не так даўно ўпраўленне ўжо несла адказнасць за падобнае: туды ж, на правабярэжжа, ім вывозілася смецце. За такое ў Брэсце, напрыклад, упраўленне атрымала б штраф у 3.000 рублёў, у Баранавічах — 1.000. Сумы штрафаў у гэтых гарадах мясцовымі Саветамі ўстаноўлены ў абход закона, але дзейнічаюць больш эфектыўна: і казне прыносяць прыбытак, і прымушаюць парушальнікаў расплачвацца за ўчыненае. У Пінску ж, дзякуючы гуманнаму Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях, нядбайнае гаспадаранне абышлося лёгкім спалохам.



# ПРАМАЯ ЛІНІЯ

*Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# *Станіслаў ШУШКЕВІЧ*

*адкажа на пытанні чытачоў «Звязды»*

**Станаўленне рэальнага суверэнітэту Беларусі. Прызнанне яе сусветным супольніцтвам. Крызіс у эканоміцы. Магчымасці сацыяльнай абароненасці насельніцтва пры пераходзе да рынку. Рост нацыянальнай самасвядомасці і развіццё міжнацыянальных адносін у рэспубліцы. Усталяванне дзяржаўнасці беларускай мовы. Перспектывы СНД і роля ў іх Беларусі. Узаемаадносіны РБ з далёкімі і блізкімі суседзямі, і як гэта адбіваецца на лёсе беларускай дыяспары. Адраджэнне Беларускага войска. Магчымасць рэферэндуму і сітуацыя ў рэспубліцы.**

**Гэтыя і многія іншыя праблемы, як сведчыць пошта «Звязды», хвалююць жыхароў рэспублікі. А што думае наконт гэтага Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. ШУШКЕВІЧ?**

**У чацвер, 23 ліпеня, з 15 да 16 гадзін ён чакае вашых пытанняў. Задаваць іх вы зможаце таксама тэрміновай тэлеграмай ці пісьмом. Званіце па тэлефонах: 32-38-21; 32-51-05.**

**Запіс «прамой лініі» будзе апублікаваны ў «Звяздзе».**

БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ

## ЯК ЖЫЦЬ ПАСЛЯ «РАЗВОДУ»?

Назіраючы працэсы, якія ідуць паміж краінамі СНД, заўважаеш, што «развод» былых рэспублік нечым нагадвае развод у сям'і, калі былыя муж і жонка не хочуць выносіць на свет божы таямніцы свайго сумеснага жыцця, асабліва калі гаворка ідзе пра раздзел маёмасці. Так было і пазаўчора ў маскоўскай гасцініцы «Прэзідэнт», дзе сустрэліся ўрадавыя дэлегацыі Беларусі і Расіі на чале з прэм'ерамі. Размовы вяліся за закрытымі дзвярамі, ніякай пісьмовай інфармацыі для журналістаў, ніводнага дакумента для знаёмства.

Праўда, і беларускі прэм'ер Вячаслаў Кебіч, і расійскі Ягор Гайдар ахвотна адказвалі на пытанні журналістаў і ў час перапынку ў рабоце, і на прэс-канферэнцыі. У чым маглі пераканацца журналісты, дык гэта ў сапраўднай прадукцыйнасці сустрэчы, бо на іх вачах было падпісана 30 дакументаў, з іх 12 на ўзроўні прэм'ераў.

Пытанне з пытанняў — пастаўкі нафты і нафтапрадуктаў у Беларусь з Расіі. У кулуарах удалося высветліць, што бакі змаглі дагаварыцца аб пастаўцы ў нашу рэспубліку 30 працэнтаў расійскай нафты па фіксаваных цэнах. У тэматыцы перагавораў — справы транспарту, граніц, аб'ектаў за рубяжом, вядома ж, Чарнобыль, узаемаадносіны ў ваеннай галіне.

Ацэньваючы вынікі сустрэчы, Ягор Гайдар сказаў журналістам:

— Закладзены вельмі добрыя асновы ўсталявання цесных адносін паміж дзвюма незалежнымі дзяржавамі.

Беларускі прэм'ер на пытанне карэспандэнта «Звязды» аб рангу маскоўскай сустрэчы ацаніў яе як першае на такім высокім і сур'ёзным узроўні спатканне ўрадаў дзвюх рэспублік пасля развалу СССР. На пытанне, што на сустрэчы было самым цяжкім і самым лёгкім, ён адказаў:

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## Яшчэ адно «Басовішча» стала набыткам гісторыі

**БЕЛАСТОК. (І. Карней). Днямі пад Беластокам завяршыўся трэці музычны фестываль «Маладой Беларусі» «Басовішча-92», арганізаваны беларускім аб'яднаннем студэнтаў са штабкватэрай у Беластоку.**

Удзел у конкурснай праграме прынялі як «монстры» беларускага року, так і навічкі, якія робяць на прафесіянальнай сцэне толькі першыя крокі. У прыватнасці, не маюць патрэбы ў рэкламе такія прызнаныя аўтарытэты, як «Уліс», «Мроя», «Мясцовы час». А вось з дэбютантаў сапраўдны фурор выклікала маладая англамоўная група з Гродна «Севеш Б», якой гледачы ў конкурсе «Папуляр» аддалі свае галасы адразу ж пасля «Уліса». Што датычыцца галоўнага прыза ад журы і тытула «прыма», то іх заваявала мінская каманда «Крама».

*Уладзімір ЖАЛІБА:*

## «ХАЧУ БЫЦЬ ПАСЛОМ ДАБРА»

**Вуліца Трактарная, 3. Па гэтаму адрасу ў гасцініцы Міністэрства абароны РБ размясцілася рэзідэнцыя надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Уладзіміра Жалібы.**



**— Уладзімір Іванавіч, што адчувае чалавек, удастоены высокага гонару быць паслом сваёй радзімы ў іншай краіне?**

— Як ні банальна гэта гучыць — хваляванне і вялікую адказнасць, а калі быць шчырым, той і задавальненне. Гісторыя робіць крутыя павароты. У інтэрнаце мы з вамі ўжо нажыліся. Сусветны вопыт паказаў, што вялікія рэзервы тут звязаны з рэалізацыяй ідэі нацыянальнай незалежнасці. Вызваліць нашы традыцыйныя сувязі ад пустых лозунгаў і дэкларацый, каб напоўніць іх канкрэтным зместам, — вось што цяпер самае галоўнае. Я вельмі люблю Беларусь. Для мяне, сапраўды, высокі гонар жыць разам з таленавітым, працавітым і добрасардэчным беларускім народам. Мне вельмі хацелася б быць паслом Дабра.

**— Што раней звязвала асабіста вас з нашай рэспублікай?**

— Родам я з Чарнігаўшчыны, у якой з Беларуссю адносіны асаблівыя. Як вядома, гэта вобласць — галоўны пастаўшчык бульбы на Украіне. Мы абменьваліся з Гомельшчынай лепшымі сартамі і, нагогул, усяляк стараліся адзін аднаму дапамагчы. Мы ганарыліся брацкімі сувязямі прадпрыемстваў, калгасаў, сем'яў. Мы думалі пра вялікае, калі ўзвышалі Манумент дружбы на стыку земляў Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай абласцей — там, дзе, як тады гаварылі, «певень пяе на тры рэспублікі». Напэўна, быў у гэтых адносінах лішак лозунгаў і медзі аркестраў. Але рабілася ўсё гэта шчыра. Мяркую, мы павінны захаваць усё лепшае з нашага мінулага і адкінуць усё наноснае. Акрамя таго, я, можна сказаць, кроўна звязаны з Беларуссю: у нашым родзе ёсць і беларуская кроў.

**— Пан пасол, раскажыце крыху пра сябе. Вы прысутнічаеце ў якой-небудзь партыі?**

— Нарадзіўся 24 лютага 1934 года, украінец. Закончыў сельгасінстытут і Акадэмію грамадскіх навук. Працоўны шлях пачаў аграномам у Цярнопальскай вобласці. Там «дапрацаваўся» да першага намесніка старшыні аблвыканкома. Быў на партыйнай рабоце. З 1980 года — старшыня выканкома абласнога Савета народных дэпутатаў, старшыня абласнога Савета ў Кіраваградзе. Народны дэпутат Украіны, член камісіі Вярхоўнага Савета Украіны. Жанаты, двое дарослых дзяцей. Жонка пакуль яшчэ ў Кіраваградзе, але, як толькі быт крыху ўладкуецца, вядома, прыедзе сюды.

Што датычыцца партый — быў членам Кампартыі Украіны. Сёння, пасля вядомых падзей, ні ў якія партыі «не цягне», хоць я ў прынцыпе — за шматпартыйнасць, за супрацоўніцтва ўсіх сіл грамадства на ўзаемапрымальнай аснове.

**— Відаць, вы асабіста ведаеце пана Краўчука...**

— Леаніда Макаравіча я даўно і добра ведаю. Шчыра гавару: гэта неардынарная асоба. Мае рознабаковыя веды. Лёгкі ў зносінах, настойлівы ў адстойванні сваёй пазіцыі. У цэлым — гэта гібкі і тонкі палітык, гарачы змагар нацыянальнага адраджэння. Такое ўражанне застаецца ў большасці людзей, якія асабіста знаёмыя з ім.

**— Пан пасол, на Беларусі рыхтуецца рэферэндум аб роспуску парламента і назначэнні новых выбараў. Ці адбываецца нешта падобнае на Украіне?**

— Такое пытанне на сесіях Вярхоўнага Савета падымалася неаднойчы. Але калі год назад яно абмяркоўвалася вельмі актыўна, то сёння прыхільнікаў правядзення рэферэндуму прыкметна паменшала. Большасць дэпутатаў мяркуе, што на Украіне цяпер шмат іншай, стваральнай працы. Хоць, вядома, любыя павароты ў цяперашніх умовах не выключаны.

**— Ці можа, на ваш погляд, Украіна выйсці з рублёвай зоны, не чакаючы замежнай дапамогі ў стварэнні стабілізацыйнага фонду купона і грыўны?**

— У Вярхоўным Савеце існуюць розныя пункты гледжання. Дамінуючая думка: Украіна павінна выйсці з рублёвай зоны. Калі гэта здарыцца? Залежыць ад многіх абставін, у прыватнасці, ад фінансавай палітыкі Міжнароднага валютнага фонду і Расіі.

**— Ці мае намер Украіна ў будучым далучыцца да якога-небудзь ваенна-палітычнага саюза ці стаць нейтральнай дзяржавай?**

— Украіна, як і Беларусь, бачыць сваю будучыню ў еўрапейскім супольніцтве, у адзінай сям'і еўрапейскіх дзяржаў. Украіна будзе стабільным і надзейным партнёрам, які захоўвае нормы міжнароднага права. Магу пацвердзіць рашучыя намеры Украіны стаць бяз'ядзернай нейтральнай дзяржавай.

**— Пан пасол, якія, на ваш погляд, перспектывы захавання СНД і, з другога боку, стварэння Балтыйска-Чарнаморскага саюза?**

— СНД — складанае палітыка-эканамічнае ўтварэнне. Цяпер цяжка сказаць, ці суджана Садружнасці доўгае жыццё, бо яе магчымасці толькі пачынаюць рэалізоўвацца.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## ВА ЎРАДЗЕ РЭСПУБЛІКІ

**З 22 ліпеня г. г. Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч знаходзіцца ў чарговым водпуску.**

**(БЕЛІНФАРМ).**

## РАДЫЁ ФАКТ

Батоны для паскарэння вываду з арганізма радыенуклідаў пад назвай «Здароўе» пачалі выпускаць на Ваўкавыскім хлебазаводзе. Хлебныя вырабы утрымліваюць не толькі звычайныя кампаненты: муку, цукар, маргарын, соль, дрожджы, але і правітамін «А», так званы карацін у масле. Ён і садзейнічае вываду радыенуклідаў.

***

**У апошні час у Беларусі пачасціліся выпадкі нападу на вартавых. Як паведамілі карэспандэнту РІА ў ваеннай пракуратуры, толькі за мінулы тыдзень падобнае здарылася двойчы. У Слуцку двое невядомых напалі на салдата, які ахоўваў ваенныя склады, звязалі яго і забралі аўтамат і два магазіны з патронамі. У Гродне на свайго саслужыўца напалі двое былых салдат гэтай жа вайсковай часці. Яны таксама забралі зброю і патроны. Пры нападзе быў прыменены газавы балончык.**

**У абодвух выпадках узбуджаны крымінальныя справы.**

***

Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія была ўдастоена гонару упершыню сфарміраваць групу студэнтаў для работы за мяжой 38 чалавек былі накіраваны у Паўночную Чэха-Славакію. Пасялілі іх у выдатным атэлі «Старое піва», забяспечылі работай і кожны зарабіў за месяц каля чатырох з палавінай тысяч крон, што складае 20—25 тысяч рублёў.

Беларускім хлопцам гэтага здалося мала. На граніцы таможнікі ў братоў Л. выявілі 72 камплекты пасцельнай бялізны, узятай з... атэля, і іншыя рэчы. Давялося братам аддаць у якасці штрафу увесь свой месячны заробак.

Але на гэтым прыгоды горацкіх студэнтаў не закончыліся. Па дарозе дамоў яны вырашылі заехаць у Варшаву на мясцовы рынак. Тут іх і сустрэлі рэкеціры. Вынік: студэнтам ледзьве хапіла сродкаў вярнуцца дадому.

***

**Рубель стаў замежнай валютай яшчэ ў адной, пасля Эстоніі, Балтыйскай дзяржаве. — Латвіі. З панядзелка на тэрыторыі рэспублікі адзіным афіцыйным плацёжным сродкам аб'яўлены латвійскі рубель — рубліс. «Увядзенне рубліса амаль не мяняе сістэму разлікаў паміж банкамі Расіі і Латвіі і не ўносіць у іх ніякай блытаніны», — заявіў карэспандэнту ІТАР—ТАСС саветнік старшыні цэнтральнага банка Расіі Мікалай Іваноў.**

***

Літоўскую эканоміку напаткала катастрофа, лічыць вядомы эканаміст прафесар Павілас Гіліс. У артыкуле, апублікаваным у газеце «Ціеса», ён сцвярджае, што да ліквідацыі яе вынікаў спатрэбіцца пяць-сем гадоў, і ў гэтым выпадку вытворчасць толькі дасягне ўзроўню «канца савецкай эры».

ПРА ЛЮДСКАСЦЬ

## ПА РОЗНЫЯ БАКІ АД МАГІЛЫ










Курапаты. Месца масавых расстрэлаў. Месца нашага смутку і памяці.

Няпраўда, што кулі сталінскіх катаў застылі ў грудзях забітых тут людзей. Несучы атруту бяздушнасці, яны па-ранейшаму ляцяць, забіваючы сумленне, памяць, годнасць — усё, супраць чаго былі адліты ў арсеналах таталітарнай дзяржавы.

Нядаўна наша газета паведамляла пра вандалізм у Курапатах: знішчэнне памятнага знака, кастрышчы на могілках. Сённяшнія навіны яшчэ горшыя. Ва ўрочышчы раскопваюць захаванні ў пошуках каштоўнасцей. Але ёсць іншыя весткі. Аргкамітэт грамадска-хрысціянскага аб'яднання «Курапаты» разам з мясцовым лясніцтвам аднавіў парушанае. Прыбрана невялікая частка тэрыторыі. Вандаламі зацікавілася пракуратура.

Па розныя бакі ад магілы, на розных полюсах грамадства стаяць тыя, хто прыходзіць сюды. Адны ўпотай раскопваюць, кідаюць разам з зямлёй косткі, трушчаць рыдлёўкамі скіўцы чарапоў, шукаючы залатыя зубы.

Другія нясуць кветкі да крыжа з надпісам «пакутнікам Беларусі», даглядаюць месцы захаванняў — нібы спавядаюць чысціню і чалавечнасць. Нібы каюцца за ўсіх нас.

Міжволі прыходзіць думка, якая не ўзнікла б сама па сабе, без гэтых фактаў. Як прадказана спрадвеку, сваё слова абвінавачвання ў судзе над усімі жывымі, пэўна, скажуць і мёртвыя. Толькі які яшчэ прысуд чакае тых, хто зведаў усе вядомыя кары,— кроў рэвалюцый і войнаў, голад у краіне «ўсенароднага дабрабыту», атручэнне радыяцыяй.

Гэты прысуд страшней, бо спасцігне ён не цела, а душу. Няздольныя абараніць памяць мёртвых, мы ніколі не захаваем годнасць жывых.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

